


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

29 жніўня 2003 года

№ 35 (436)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Плюс Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

### Абрабавалі шапік

МЯДЗЕЛ. У ноч на панядзелак хтосьці залез у шапік "Белсаюздруку" ў Купе. Вядома ж, не цяга да газетаў і часопісаў прывяла яго туды: з шапіка скралі каля мільёна рублёў выручкі і тавараў на 70 тысяч. Як мяркуецца, злодзей падабраў ключ да навяснога замка дзвярэй.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Бывай, лета

АСТРАВЕЦ. Свята для школьнікаў "Да пабачэння, лета" правялі работнікі раённага Дома культуры і метадычнага цэнтра. У прагламе былі гульні, канцэрт мясцовага рок-ансамбля "КРАШ", атракцыёны. Закончылася мерапрыемства дыскатэкай.

Святлана ЦІШКО.

### Новы апарат

АШМЯНЫ. Новы японскі апарат для абследавання органаў стрававання з'явіўся ў раённай бальніцы. Набыты "Фуджыном" па лініі Гродзенскага аддзела аховы здароўя і дае магчымасць праводзіць працэдуру зандзіравання стрававода, страўніка, дванаццаціперснай кішкі бязбольна.

Марына СЛІЖ.

### Карову – на мяса

ВАЛОЖЫН. У ноч на 21 жніўня бясследна знікла карова з малочна-таварнай фермы "Даўбені", што ў СВК "Брылькі". Праз нейкі час рэшткі яе, галаву і нагу, знайшлі ў невялічкай пасадцы. Гэта ўсё, што пакінулі пасля сябе зладзеі-прафесіяналы, якія пусцілі жывёлу хутчэй за ўсё на мяса.

Аддзел інфармацыі "РГ".

### Стане прыгажэйшай

ВІЛЕЙКА. Зрабіць свой горад чысцейшым і прыгажэйшым вырашылі віляйчане ў год навядзення парадку на зямлі. Нягледзячы на даждлівае надвор'е рабочыя ўкладваюць тратуарную плітку на цэнтральнай плошчы горада, закуплены новыя урны для смецця. Праз нейкі час яны будуць устаноўлены на вуліцах горада.

Аддзел інфармацыі "РГ"

### Першыя ў рэгіёне

МАЛАДЗЕЧНА. Новыя святлафоры ўстаноўлены на скрыжаванні Віленскай і Вялікага Гасцінца прадпрыемствам «Тарнада-Вест». Ад сваіх папярэднікаў адрозніваюцца крыніцай выпраменьвання: працуюць на наборах святлодыёдаў. Яны даражэйшыя за старыя мадэлі, але больш даўгавечныя і патрабуюць менш энергіі.Такая навінка ёсць толькі ў Мінску і Гродне.

Святлана ЦІШКО.

# Вайсковыя «археолагі»

**ВІЛЕЙКА. Маладыя хлопцы з рыдлёўкамі – не абавязкова будатрадаўцы. Вайсковец з іголкай і марлевай павязкай на твары – не хірург.**

Часовым пунктам дыслакацыі абрала поле непадалёк ад чыгуначнага прыпынку «Красны Беражок» падраздзяленне 52 асобнага спецыялізаванага пошукавага батальёна, якім кіруе старшы лейтэнант Дзмітрый Чарапов іч. Раней яно займалася пераважна пошукамі астанкаў воінаў Вялікай Айчыннай вайны і іх амуніцыі. З гэтага года даследуюць яшчэ і няўлічаныя пахаванні І сусветнай вайны, на якія ў ваенкаматах няма ніякіх дакументаў. На жаль, у Беларусі засталіся магілы салдат, пра якія ведаюць толькі жыхары навакольных вёсак, відавочцы ваенных падзей. Такімі пахаваннямі і займаецца падраздзяленне 52 батальёна. За час працы толькі каля вёскі Порса знайшлі 49 касцявых астанкаў воінаў І сусветнай, іх амуніцыю, гузікі, патроны з тупымі галоўкамі, якія ўжо зняты з узбраення. Надзвычайная знаходка — георгіеўскі крыж IV ступені з асабістым нумарам уладальніка. Па архіўных дадзеных ужо спрабуюць вызначыць імя гэтага чалавека.

"Трафеі" першай сусветнай вайны знайшлі і ў вёсцы Трапалава. Там давялося абясшкодзіць 2 небяспечныя снарады, разміраваў якія старшы лейтэнант Дзмітрый Чараповіч, дарэчы, ён адзін з усяго падраздзялення мае на гэта дазвол. Устанавілі таксама, што каля Краснага Беражка сталі тылавыя часці расійскай арміі. Усе астанкі перахавалі каля брацкіх магіл ці ў месцах, прапанаваных сельсаветам.

Праца ўскладняецца тым, што ад часоў 1914-1916 гадоў засталося вельмі мала архіваў, не кажучы ўжо пра сведкаў. Перашкаджаюць таксама і «чорныя капацелі», якія разбураюць пахаванні, робяць падкопы — шукаюць каштоўныя металы, рэліквіі, каб прадаць. Аднойчы нават спрабавалі трапіць на месца раскопак, якое ахоўваў патруль.

Але ёсць у вайскоўцаў і сапраўдныя памочнікі. Андрэй Каркотка з Вілейкі, які ўжо адслужыў у гэтым падраздзяленні і звольніўся, па-ранейшым шукае і перадае літаратуру, успаміны мясцовых жыхароў. Ён да службы ў войску скончыў гістарычны факультэт і хацеў трапіць менавіта ў спецыялізаваны пошукавы батальён. Увогуле ж амаль 30% інфармацыі аб магчымых пахаваннях даюць мясцовыя жыхары. Да іх вайскоўцы звяртаюцца з просьбай паведамляць пра неадзначаныя брацкія магілы па адрасе: 220056, г.Мінск, в/ч 28443, камандзіру часці.

Вольных хвілінак у салдат мала: раніцай да заняткаў да вечарам да адбою. У гэты час яны гуляюць у валейбол, футбол, нават могуць глядзець тэлевізар, нягледзячы на тое, што жывуць у палявых умовах. Лісты ад сяброў і сваякоў атрымліваюць у Вілейцы на галоўпаштамце. Выпісваюць газеты, у тым ліку і «Рэгіянальную», бо амаль цэлае лета базіруюцца ў Вілейскім раёне. Да службы ўжо прывыклі. Аб сваім здароўі непакояцца не больш, чым салдаты іншых вайсковых часцей. Бо перад раскопкамі ўсім робяць прышчэпкі ад сібірскай язвы, слупняку і іншых цяжкіх хваробаў.

Святлана ЦІШКО.



Малодшы сяржант Сяргей Яцына служыць у падраздзяленні 52 асобнага спецыялізаванага пошукавага батальёна.

Фота Святланы ЦІШКО.

### Немцы ў Камарове

Дзесяць дзён прабыў студэнцкі валанцёрскі атрад з Германіі ў вёсцы Камарова, што на Мядзельшчыне. Нямецкая моладзь не толькі адпачывала, але і працавала.

2-я старонка

### Цырульні розныя бываюць



У цырульню людзі часта ідуць за добрым настроем. Аўтару матэрыялу яго наадварот сапсавалі.

3-я старонка

### Трэнер Харламаў



Сёлета ў галоўнага трэнера футбольнай каманды "Забудова" Канстанціна Харламава двайны юбілей.

8-я старонка

■ СУВЯЗІ

# Немцы ў Камарове

**МЯДЗЕЛ. Дзесяць дзён прабылі ў Камарове 12 студэнтаў з розных куткоў Германіі. Добраўпарадкавалі сцяжынкі ў парку, падыход да мосцікаў праз рэчку, стварылі альпійскую горку... Працавалі сур'ёзна, з 9 да 19 гадзін: хацелі больш паспець.**

Выкладчыца сельскагаспадарчага ліцэя Марыя Скрыпко, якая трымала над нямецкімі студэнтамі апеку, кажа, што працавалі яны заўсёды з усмешкай і стараннем. Ды і мясцовым людзям прыклад паказалі, як неабходна арганізаваць работу, каб не было ніякіх прастояў.

А яшчэ студэнты прадэманстравалі любоў і павагу да прыроды. Не на словах, на прыкладах. Разбіралі стары хлеў, побач з якім расла бяроза. Дык не ссеклі яе, не паламалі, а выкапалі з каранямі і перанеслі ў іншае месца. Калі непадалёку пасадзілі клён – то прынеслі зямлю, у якой ён рос. І зазначылі пры гэтым, што ў выпадку, калі дрэвы не прыжывуцца ( усё ж не сезон для пасадкі), то прыедуць і пасадзяць яшчэ.



У Камарове ёсць ужо куточак Германіі — гэту пякарню дапамагалі будаваць немцы. Фота з архіва Алеся ВЫСОЦКАГА.

У вольны час валанцёры пабывалі ў суседніх вёсках Занарач, Купа, на Блакітных азёрах. Спадабаліся ім драўляныя хаты, а асабліва – мясцовая прырода. Казалі, што такой дзікай, некранутай у Германіі ўжо няма. І яшчэ адзін цуд убачылі замежныя студэнты на Мядзельшчыне – буслоў. За гэтымі паважнымі, разумнымі птушкамі назіралі з задавальненнем, і не адну гадзіну.

Пасябравалі немцы і з мясцовымі жыхарамі, з якімі гулялі ў футбол, сядзелі разам ля вогнішча, дзе чуліся то нямецкія, то беларускія песні. Па заканчэнні летніка ў сваіх анкетах немцы адзначылі, што ім прыйшліся даспадобы і мясцовасць, і жыхары вёскі. Шмат хто з іх збіраецца ў Камарова і налета. Бо валанцёры ехалі ў Беларусь з надзеяй не толькі пазнаёміцца з краінай, людзьмі, але і зрабіць штосьці карыснае. Што і адбылося.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ РОДНАЯ МОВА

## Рум? Што гэта?

**Колькі жывеш — столькі новага пазнаеш. І праўда, кожны дзень жыццё падносіць нам сюрпрызы. А багатая, сакавітая беларуская мова — тым больш. Часта даводзіцца чуць незнаёмыя словы. Але наша фантазія робіць сваю справу, і узнікаюць асацыяцыі, якія часам з'яўляюцца не менш цікавымі, чым самі лексічныя значэнні слоў.**

Што такое рум? "А з якой літары пішацца?" – спытала ў мяне знаёмая жанчына, якой я задала такое пытанне. І не дзіўна, бо на Валожыншчыне ёсць вёска, што носіць такую незразумелую на першы погляд назву.

Для мяне гэта сапраўды было не зразумелым, бо "Рум" гучыць неяк не па-беларуску. Адразу ўзнікае асацыяцыя з англійскім словам "room", што азначае пакой. Аднак наш слоўнік дае іншае тлумачэнне гэтага беларускага слова. Рум – гэта месца на беразе ракі, куды звозяць бярвенне для сплаву і дзе вяжуць плыты.

Вось і становіцца зразумелым, чаму вёсачка ў Валожынскім раёне, размешчаная на рацэ Іслач, называецца такім прыгожым беларускім словам — Рум.

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

■ СМАРГОНСКІЯ НАТАТКІ

# Быў ён чалавекам слова

Усе мае ўспаміны не былі б чагосьці вартыя, каб не прыгадаў цудоўнага чалавека Сяргея Паўлавіча Кар'янскага. Ён быў кіраўніком духавога аркестра і сам добра іграў на трубе.

Мы часта спрачаліся з музыкантамі яго аркестра наконт таго, хто будзе іграць танцы ў Доме культуры альбо на адкрытай танцавальнай пляцоўцы. Як правіла, ігралі па чарзе.

Пра Сяргея Паўлавіча, зімовага рыбака, хадзілі нават легенды. Аднойчы на кар'еры ён зачапіў нешта вельмі цяжкае. Збегліся рыбакі і раяць:

— Моцна не цягні, пашырым лунку, а то выпусціш.

Ён уверх, нейкая сіла цягне да дна, а леска даволі тонкая, не на такі цэнжар.

— Адыдзіцеся, не перашкаджайце, спраўлюся і без вас, — крычаў Сяргей Паўлавіч.

Праз нейкую палову гадзіны замест рыбіны паказаўся вялікі чорны корч з дротам у выглядзе спружыны на канцы. Вось яе рыбак і адрываў ад дна. Некаторы час ён там не рыбачыў.

Прыгожы, акуратна апрануты чалавек заўсёды быў захутаны доўгім шалікам, бо часта скардзіўся, што яму нешта баліць горла.

Яго вельмі любілі і паважалі ўсе людзі, таму што ён быў вельмі патрэбны ў цяжкую хвіліну.

Аднойчы я прыбег да яго ў 12-й гадзіне, каб на 15.00 заказаць духавы аркестр на жалобнае мерапрыемства.

— Сяргей Паўлавіч, выручайце, ну, хоць у самым маленькім складзе, — сказаў я, страціўшы ўсялякую надзею.

Падумаўшы ён сказаў:

— Знайдзі мне Грышу Крэня і Івана Размысловіча. Скажы ім, што вельмі трэба. Я прасіў.

Іван Размысловіч быў выдатным барытаністам. Яго барытон проста спяваў. Шырокі дыяпазон, прыгожы тэмбр і прафесійная вібрацыя гуку вылучалі яго сярод музыкантаў. З цяжкасцю верылася, што ён – рабочы лесазавода, а не артыст сімфанічнага аркестра.

Роўна ў 15 гадзін раздаліся першыя акорды даволі вялікага аркестра. І не грошы цікавілі Сяргея Паўлавіча. Ён быў чалавекам слова і высокай культуры.

У футарале, дзе ляжала яго труба, заўсёды былі алюмініевы кубак і агарак свечкі.

Па традыцыі людзі запрашалі музыкантаў у хату памянуць нябожчыка, але тыя адмаўляліся.

І калі нешта перападала ці спецыяльна давалі нейкага першаку, каб на марозе не стыла механіка інструментаў, Сяргей Паўлавіч наліваў кроплю у свой кубак. Моўчкі грэў яго над полымем свечкі і потым выпіваў за чалавека, якога толькі што правёў у апошнюю дарогу.

**Юрый ЦЕРАБУН.**

■ ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# Паважайце сябе...

**Браты мае родныя! Дзеці Зямлі-маткі маёй! Мушу пагаварыць з вамі аб спадчыне.**

Якая ж яна ў нас багатая. Гэта і палі, на якіх зараз жаўцеюць копкі нядаўна зжатай збажыны, і лясы, дзе адчуваеш прахалоду ў летнюю спёку, замчышчы – рэшткі былых умацаванняў. Шмат іх параскідана па ўсёй нашай Беларусі. Некаторыя ўзяты пад ахову дзяржавы, а іншыя і так маўкліва нагадваюць аб колішняй магутнасці.

Надоечы прачытала артыкул пра Лоскі замак. Цудоўна расказаў пра яго гісторыю Міхаіл Філістовіч. Аўтар пазнаёміў чытачоў са шматвяковай гісторыяй ўзнікнення паселішча, расказаў пра жыццё ў гэтым населеным пункце. І тым не менш, сэрца растрывожылася. Прычынай таму, сучасны стан Лоскага помніка археалогіі. Час паказвае, што людзі перасталі шанаваць нашы святыні, забыліся на тое, што менавіта культурай чалавек і адрозніваецца ад дзікуна. Дык чаму ж тады каля замчышча ўтварылася звалка? Чаму ніхто не спыніць гэта манкурцтва, якое ў нас зараз амаль на кожным кроку? Людзі, давайце ж хоць сябе паважаць, калі не шануем нашай гісторыі.

Стаю на замчышчы... Лёгкі ветрык ледзь чутна пакалыхвае лісткі старой грушы, перашэптваецца трава. Стракочуць конікі. Гляджу за небакрай. Якая прыгажосць! Але позірк скіраваўся ўніз. Там – горы смецця, прывезенага і выкінутага ля помніка археалогіі. Ганьба!

**Алена СЫМАНОВІЧ, філолаг.**

■ УСПАМІНЫ

## Адваявала «Трывожнае шчасце»

**Калі мне было 22 гады, трапіла я на даволі высокую пасаду. Тады такім як я падчас адпачынку без цяжкасцей маглі даць пуцёўку ў санаторый. Выдзелілі і мне, у Нясвіж.**

З'явілася я там у канцы лістапада, калі кароткія дні былі ахутаны туманом і дажджом. У санаторыі панавала сапраўдная абломаўшчына: моладзі не было, а інваліды і пенсіянеры, што яго засялялі, гаварылі пра хваробы ды лекі. Праўда, раніцой, калі пачынаўся дзень, баяніст Пётра хадзіў па калідоры ў 8 гадзін і будзіў нас мелодыяй да партыйнага гімна "Вставай, проклятьем заклейменный".

Быў тут і свой масавік Яша, які ўсім падабаўся, бо амаль кожны вечар арганізоўваў для нас вечары адпачынку: канцэрты мастацкай самадзейнасці і танцы пад баян. Адным вечарам праводзіліся гульні. У адной з іх трэба было з завязанымі вачыма пакруціцца вакол уласнай асі і, падышоўшы да стала, дзе ляжалі прызы, пакласці руку на жаданы прыз, і ён твой. Сярод прызоў была кніга Івана Шамякіна "Трывожнае шчасце", якую надта хацелася мне выйграць. Да жаданага прыза я дакранулася толькі мізінцам, і кнігу не далі. Праўда, усе скандзіравалі "Ей книгу!, ей книгу!". Масавік не паслухаўся. Але я не спынілася. Як толькі аб'явілі другую гульню, першая выскачыла на сярэдзіну залы. Яшчэ былі тры ўдзельнікі мужчынскага полу. Упоперак залы былі расцягнуты чатыры вяроўкі на розных узроўнях: на ўзроўні калень, і на ўзроўні паясніцы. Праз адну трэба было пераступіць і не зачапіцца нагой, пад наступную праелезці і не зачапіцца спіною.

Далі каманду, і мы пайшлі. Зала адразу ўзарвалася смехам. Я падумала, што смяюцца з мяне, бо была надта ў вузкім сарафане і на высокіх абцасах. А рогат быў таму, што нам далі пераступіць толькі першую вяроўку, астатнія ж хуценька знялі, і мы ішлі з завязанымі вачыма і ў пустым паветры рабілі розныя, можна сказаць, піруэты: хто поўз па падлозе, каб не зачапіць вяроўку спіной, хто задзіраў як мага вышэй нагу. Калі ж дайшлі да канца, далі каманду павярнуцца назад і прайсці ў адваротным напрамку. І тут мы ўсё пераблыталі. Мой сусед вырашыў, што трэба падлазіць пад вышэйшую вяроўку, якой, канешне ж, не было, а я лічыла, што трэба пераступіць. І тут... адбылося нечаканае: мой сусед стаў на карачкі, а я, задзёршы нагу, асядлала яго. У мяне ззаду апынулася яго галава, спераду рукамі я нашчупала процілеглую частку цела.

Што рабілася ў зале – не перадаць. Стаяў роў, нехта, відаць, беручыся за жывот, крычаў "Ой, ой". Да таго ж, сярод ўсяго гэтага наш баяніст іграў марш да кінафільма "Цырк" (ён усе гульні агучваў музыкай).

Тут падбег масавік, зняў мяне з майго калегі, развязаў вочы. Усім далі прызы, бо насмяшылі народ, і ніхто не зачапіў вяроўку. Я ж атрымала "Трывожнае шчасце", яшчэ і праславілася. Цяпер мяне не толькі ўсе ведалі, але з усмешкай да вушэй віталіся ў сталоўцы, на працэдурах і на вуліцы.

**"Хворая" з санаторыя.**

■ УСЕ ЧАТЫРЫ КОЛЫ

# Слязою ўмылася раніца

**ВАЛОЖЫН. За сем месяцаў бягучага года на дарогах раёна адбылося 14 аварый. За ўвесь год летась – 17. Людзі страцілі пільнасць і плацяць за бяспечнасць уласнымі жыццямі.**

На Вялікдзень дзяўчаты гадаюць аб будучым лёсе і перакоўваюць праз сані. Удасца – прыедуць сваты ўвосень, не – давядзецца чакаць да наступнай вясны. Варажыў хтосьці і на гэтага маладога хлопца. Шкада толькі, што прароцтвам святочным не збыцца. Бо не прышле ён сватоў ні праз год, ні праз дзесяць. "Павянчаўшыся" з сырой зямлёй, так і застанецца ў ёй ляжаць навечна.

Сяргей і Андрэй (назавём маладых людзей так), прыехалі ў вёску Войштавічы з Маладзечна. Вядома ж, у сваякоў не сядзелася. Таму, як толькі звечарэла, рушылі на дыскатэку. Сустрэча з мясцовай моладдзю была бурнай, бо дадому вярталіся ноччу і на добрым падпітку. Праз нейкі час і без таго непаслухмяныя ногі зусім адмовіліся ісці. Хлопцы аб'явілі прывал. Сяргей улёгся спаць на абочыне дарогі, Андрэй – прама на праезнай частцы.

Раніца падкралася непрыкметна. Бойкая шаша зноў стала ажываць. Акурат у гэты час і вярталіся па ёй з танцаў дзве кампаніі на аўтамашынах.



**Так выглядае аўтамашына, дастаўленая на тэрыторыю Валожынскага РАУС пасля дарожна-транспартнага здарэння. Усё гэта – вынік чалавечай бяспечнасці і няўважлівасці.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Вадзіцелі, відаць, расслабіліся. У такі ранні час дарога бывае хутчэй за ўсё пустая: ні сустрэчнага транспарту, ні людзей. Хвіліна ... і легкавушкі адна за адной пераехалі праз юнака, што мірна спаў на праезнай частцы.

"Хуткая" дапамога ўжо не спатрэбілася. Андрэй памёр ад цяжкай траўмы галавы прама на месцы здарэння. Галоўны сведка — сябрук, якога пабудзілі работнікі міліцыі, толькі спалохана лыпаў вачыма. Маўляў, нічога не чуў, нікога не бачыў. Відаць, салодкім быў сон пасля горкай гарэлкі, якая і прывяла да бяды.

А праз нейкі час яшчэ адзін няшчасны выпадак. У канаве дарогі, што вядзе да вёскі Будраўшчына, быў знойдзены труп 20-гадовага юнака. Па словах эксперта, смерць наступіла ад траўм, прычыненых аўтатранспартным сродкам.

Факты прыведзены не дзеля таго, каб напужаць людзей. Улічыўшы народную мудрасць, што на чужых памылках вучацца, хочацца, каб і гараджане, і вяскоўцы ўспомнілі пра Правілы дарожнага руху, парушэнне якіх прыводзіць да трагедый. Тычыцца гэта як пешаходаў, так і вадзіцеляў, якія залішне вальготна вядуць сябе на аўтатрасах. Кожнаму чамусьці здаецца, што няшчасны выпадак можа здарыцца з кім хочаце, толькі не з ім. Практыка паказвае іншае. Толькі сёлета ў Валожынскім раёне дарога забрала жыцці 5 грамадзян, 14 чалавек атрымалі цялесныя пашкоджанні рознай ступені цяжкасці. І гэта нягледзячы на растлумачальную, прафілактычную работу сярод уладальнікаў аўтамашын, пешаходаў.

Намеснік начальніка Дзяржаўтаінспекцыі Валожынскага РАУС Іван Гаспарэвіч расказвае: "На афіцыйным уліку ў раёне амаль 12 тысяч сродкаў перамяшчэння. Асаблівую трывогу выклікаюць матацыклісты, якія ў вячэрні час устройваюць на дарогах сапраўдныя гонкі. У большасці сваёй, гэта 14-17 гадовыя падлеткі, якія не маюць ні правоў на кіраванне матацыклам, ні вопыту ваджэння. Толькі з пачатку бягучага года 40 такіх "летуноў" пакараны штрафамі. А нядаўна заведзена яшчэ і крымінальная справа. Малады хлопец збіў двухколавым транспартам дзяўчыну, якая ішла з танцаў. Пры гэтым, павёў сябе далёка не па-джэнтльменску: з месца аварыі збег. Дзяўчына атрымала цяжкія цялесныя пашкоджанні і была дастаўлена ў бальніцу. А гора-матацыкліста мы знайшлі: ім аказаўся жыхар Смаргонскага раёна. Дарэчы, вёў сябе малады чалавек надзіва спакойна. Бо, прадугледзеўшы сустрэчу, зняў з матацыкла ўсе пашкоджаныя дэталі. Толькі вось абвесці супрацоўнікаў міліцыі не змог. Прыйшлося прызнацца і даць падпіску аб нявыездзе".

Трапляюць у спісы парушальнікаў і вадзіцелі аўтамашын. Чаго граху таіць, любяць "сапраўдныя" мужчыны пакатацца на дарогах горада і раёна, прыняўшы чарку-другую альбо не маючы правоў. Добра яшчэ, калі сутыкнецца такі аўтааматар з прыдарожным слупам альбо ўедзе ў чужы плот. Машыну можна аднавіць альбо, сабраўшы грошы, купіць новую. Нічога не паправіш, калі вынік такой паездкі будзе іншы – са смяротным зыходам. Таму будзьце пільнымі і асцярожнымі. Дарога памылак і пралікаў не даруе!

**Марына СЛІЖ.**

Ад рэдакцыі: калі матэрыял ужо быў падрыхтаваны да друку, стала вядома, што за 6 перадапошніх дзён жніўня ў раёне адбылося яшчэ 6 аварый. Адна з іх са смяротным зыходам.

■ ЧЫТАЧ ПІША

# Крыўдна ...

**МАЛАДЗЕЧНА. У мястэчку Радашкавічы па вуліцы Зарэчная, 16 на доме прыбіта чырвоная зорачка. Тут жывуць ветэран вайны і працы Уладзімір Барэйка і яго жонка Рэгіна, вязень фашысцкага канцлагера. Людзі шаноўныя, сціплыя, паважаныя ў пасёлку.**

Для іх праца — як сонца ўзыход. Хоць нямоглыя, але ўсё яшчэ тупаюць, даглядаюць свой гарод, сад, акультурваюць сялібу. Паважаюць чысціню, прыроду, а хата, дзе жывуць Барэйкі, дык і наогул патанае ў зяляніне сада.

Дарога, што ўецца ля іх сялібы, была раней разбіта машынамі, уся на ямах. Непралазная гразь год ад году пашыралася, адваёўваючы сабе ўсё новыя і новыя тэрыторыі. Руплівы гаспадар вырашыў утаймаваць балота. Наняў машыну, завёз пясок-чарназём, пасеяў траву, і праз нейкі час на месцы ям утварыўся зялёны дыван. Больш таго, ён пільна сачыў за кінутай зямлёй, стараўся, каб нідзе не было бур'яну, і заўсёды абкошваў яго не толькі ў свaім двары, але і на нічыйнай зямлі, ля дарогі.

З гадамі сад, які так клапатліва даглядаюць Барэйкі, вырас. Яблыні, вішні, алыча развешвалі свае галіны аж за плот. Вось і вырашылі ветэраны, каб уратаваць дрэвы ад шматлікіх "турыстаў", якія часта ламалі сучча, аднесці крыху свой плот. Чужой зямлі не захапілі, аднак каморнік з'явіўся ўласнай асобай і тут жа загадала не ставіць новы плот, а галіны дрэў, што звісаюць, абрэзаць! Нямоглы ветэран быў абураны такой непавагай, спрабаваў угаманіць каморніка, растлумачыць, што не парушае зямельнага закона. Непрымірымая, яна не паддалася ўгаворам. Больш таго, прыгразіла штрафам.

Барэйкі былі прыніжаны паводзінамі прадстаўніцы мясцовай улады. Хворыя людзі хапаліся за сэрцы, не маглі ноччу заснуць. Дзеля той праўды старшыня гарпассавета, якога паклікала гаспадыня, вырашыў пытанне станоўча. Ды гамонка ідзе не пра гэта, а пра тое, хто даў права землямеру гаварыць ад імя высокага мясцовага начальства, зневажаць сталага веку людзей.

Дарэчы, пра прывілеі для іх, маецца на ўвазе паліва, таксама забываюцца. І ў гэтым той жа Уладзімір Барэйка не раз пераканаўся. Таму і хочацца ведаць думку адміністрацыі раёна аб сацыяльнай абароне ветэранаў вайны і працы ў мястэчку Радашкавічы.

**Сымон БЕЛЫ.**

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Разумныя істоты

**Удзельнікам дарожнага руху можа быць кожны. Асобна стаіць гужавы транспарт. Кожны гаспадар, які меў дачыненне да коней, адзначае іх кемлівасць у пытаннях руху. Напрыклад, крыху падпітага гаспадара конь давязе дахаты. Ці, з'ездзіўшы адзін раз па дровы, конь паўторыць шлях.**

Кабыла маіх знаёмых заўсёды спыняецца перад знакам "Стоп". Гэта заўважылі досыць выпадкова. Праязджалі адно і тое перакрыжаванне. Конь спыняўся. Пасля паехалі ў больш далёкую дарогу, і перад гэтым знакам конь увесь час спыняўся. Не ў прыклад некаторым удзельнікам дарожнага руху.

Каб ад мяне залежала, увядзенне новых правілаў я зрабіў бы больш галосным. Хаця б таму, што кіроўцы для пачатку павінны іх прачытаць. А кемлівыя гаспадары будуць адпаведным чынам перавучваць коней. Каб выканаць асноўнае правіла кіравання любым транспартам: не перашкаджаць.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

# Куды паехалі грыбы?



Грыбнікі выстройваюцца ў чаргу, каб здаць свае лісічкі прыезджым бізнесменам. Фота Святланы ЦІШКО.

**МАЛАДЗЕЧНА. У адным з двароў горада кожны базарны і перадбазарны дзень з'яўляецца мікрааўтобус. Да яго з боку рынку тонкай стужкай цягнуцца людзі з вёдрамі і торбачкамі, поўнымі грыбоў, каб здаць тавар. Чаму гэта робяць не на рынку, а па завуголлях? Ідзём у разведку!**

Калі нарыхтоўшчыкі не афішуюць сваю дзейнасць, значыць у іх ёсць прычына для таямнічасці. Таму я і не ішла ў атаку з фотаапаратам напераве, а доўга кружыла вакол імправізаванага гандлёвага пункта. Метраў за 10-15 да яго сутыкнулася з "аб'ёмным" мужчынам някідкай знешнасці. Ён без відавочнай мэты хадзіў між будынкаў. Дзіўнае месца для прагулак, тым больш, што ішоў дождж.

Людзі моклі, чарга рухалася павольна. Аднастайнасць працэсу развітання з «упаляванымі» грыбамі парушыў мужчына на падпітку. Ён прыйшоў з цэлафанавым пакетам, у якім боўталася штук 20 лісічак, і стаў прапаноўваць усім свой тавар:

— Ну вазьміце. Чаго ж мне тут стаяць? Добрыя ж грыбочкі. І нядорага вазьму.

Але ніхто імі не зацікавіўся. Увогуле адчувалася, што людзей нешта непакоіць.

Зрабіўшы фотаздымкі з розных ракурсаў, захацела задаць некалькі пытанняў. Цікава, напрыклад, колькі даюць за кілаграм, што прыёмшчыкі будуць рабіць з таварам, адкуль грыбнікі ведаюць, дзе і каму здаваць. Раптам проста з-пад зямлі з'явіўся той "аб'ёмны" мужчына:

— А што вы тут фатаграфуеце?

— Ды вось людзей з вёдрамі, — адказваю. — Тут грыбы прымаюць? А як людзі даведваюцца, што вы тут?

— Гэта ўжо нашы праблемы. А з якіх вы органаў? Такія пытанні задаюце, нібы на допыце.

Не ведаю, можа, у дзядзькі большы досвед зносінаў з «органамі», але мне здавалася, што на допытах задаюць іншыя пытанні іншым тонам. Мірна ці не, але неяк мы з ім разышліся. Махнуўшы рукой на ўсе нявысветленыя моманты, збіраюся ўцячы ў рэдакцыю. Нечакана абурылася бабулька з чаргі:

— Жанчына, што вы тут фатаграфуеце?

— Ну вось вы тут стаіце з грыбамі. Цікава... — асуджана пачынаю тлумачыць.

— Стаім, бо маем права! — закрычала яна, нібы нехта хацеў яе адагнаць ад аўтобуса.

Спрачацца не мела сэнсу. Жанчына, відаць, баялася, што прыёмшчыкі спалохаюцца і не прымуць у яе тавар. Накіроўваюся на рынак. Грыбы прадаваў толькі адзін мужчына. Лісічкі — 1500 рублёў за паўлітровы слоік, 2000 рублёў за 5 падбярозавікаў. Астатніх прадаўцоў пераманілі хлопцы з мікрааўтобуса. Трэба меркаваць, той «шпацыроўшчык» не толькі ахоўвае ад «органаў», але і рэкламуе свой бізнес.

У 10.30 ужо нікога ў двары не было. Эмігрыравалі нашы лісічкі ў Літву. А можа, у Польшчу?

**Святлана ЦІШКО.**

■ ТУРЫЗМ

# У Міхайлаўскае да Пушкіна

**МАЛАДЗЕЧНА. Тры гады не шанцавала нам адправіцца ў паход у Міхайлаўскае. Сёлетнім летам мара здзейснілася.**

У сямейнае веласіпеднае падарожжа другой катэгорыі складанасці адправіліся сем'і Бялковых, Сідаровічаў, Шынкевіч, Самсановічаў і Сяргей Чэкавы. Варта заўважыць, што ўдзельнікі паходу жывуць не толькі ў Маладзечне, але і ў Мінску, Вілейцы, Лідзе, што не перашкодзіла нам сабрацца разам і пераадолець за два тыдні 595 кіламетраў.

Маршрут актыўнай часткі паходу пачынаўся са старажытнага Полацка, да якога даехалі прыгарадным цягніком. Далей азёры Дрэтунь, Валабо, гарады Расоны і Апочка (ужо ў Расіі) і Пушкінскія горы, ад якіх да Міхайлаўскага рукой падаць – усяго 6 кіламетраў.

Не магу ўтрымацца, каб не расказаць пра цудоўнае возера Валабо, трошкі падобнае да прыбалтыйскіх дзюн. Наш юны гідролаг Улад Самсановіч замяраў тэмпературу вады ў азёрах і рэках. Яна ў першыя дні даходзіла да 19 градусаў цяпла, у той час як паветра ранiцай было ўсяго 13-14. Так што ў вадзе можна было грэцца.

Зусім нечаканай была сустрэча са знаёмым з Мінска Рыгорам Латакурскім – дырэктарам фірмы "Турлан", рыштункам якой вось ужо 15 гадоў карыстаюцца турысты клуба. Дарэчы, іх палаткі былі з намі і ў час паходу. Больш таго, прайшлі цяжкае выпрабаванне. З возера дзьмуў такі моцны вецер, што іх прыйшлося прывязваць да аўтамашын. А мы ў гэты час моклі пад дажджом...

З возера Валабо па лясной дарозе зрабілі невялікую экскурсію на курган Рагнеды каля вёскі Перавоз. З надвор'ем у гэтым паходзе нам не вельмі пашанцавала, даволі часта ішоў дождж. І перад Пушкінскімі гарамі мы ў чарговы раз вымаклі да ніткі. У Святагорскім Свята-Успенскім манастыры настаяцель айцец Макарый дазволіў нам падсілкавацца ў манастырскай трапезнай і пачаставаў чаем з батонам і варэннем. А затым была экскурсія па манастыры да магілы Аляксандра Пушкіна, пасля яе – два дні экскурсій па сядзібах Міхайлаўскага, Трыгорскага і Пятроўскага. Прагулкі па дарожках паркаў, а вечарам каля вогнішча абмен уражаннямі вельмі зблізілі нас усіх. Усе без выключэння былі задаволены экскурсіяй, якая падарыла столькі ўражанняў, цікавых сустрэч і... нягледзячы на шматлікія цяжкасці, шчаслівых хвілін. Толькі час быў збірацца дахаты. І зноў колы нашых веласіпедаў пераадольваюць кіламетры дарог. Хутка родная Беларусь, дзе яшчэ доўга будзем успамінаць падарожжа ў Міхайлаўскае да Пушкіна.

**Сяргей БЯЛКОЎ.**



Мікіта і Юра Самсановічы. У шасцігадовага ўдзельніка была свая пасада – дэгустатар чая, а бацька загадваў "майстэрняй" па рамонту веласіпедаў. Фота Сяргея БЯЛКОВА.

■ КОНКУРСЫ

# «Тая, што нас яднае»

**Раніца ў рэдакцыі была клопатная. Журы, у склад якога ўвайшло пяць супрацоўнікаў “Рэгіянальнай газеты”, падводзіла вынікі конкурсу “Збяры карцінку”.**

Прызнацца, папацелі. Ды і сама задача была не з простых. Пісьмы з паметкай на конкурс прыслалі аж но 37 чалавек, якіх мы называем. Гэта маладзечанцы **С.М.Міцкевіч, Таццяна Сергіевіч, Максім і Кірыл Ждан, Яўген Жамойдзін, М.А.Мішковіч, Вольга Пераломава, Аляксандр Пакладок, Валянцін Цішко, Віктар Рамановіч Лянкевіч, Андрэй Роўны, Аляксандр Мікалаевіч Жыла, Кацярына Якубоўская, Андрэй Дзмітрыевіч Бялугін, Алеся Мядзведская, Анастасія Лужынская, Зінаіда Уладзіміраўна Анціпава, Міраіда Іванаўна Сярпейка, Эдуард Уладзіміравіч Сяргей, Валянціна Жаўняровіч, Валянціна Пятроўна Папок, Ірына Найдзіч.**

Віляйчане **А. Капцюг, Ганна Абара, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Іосіфаўна Кароцік, Сяргей Стрэж, Сяргей Мікалаевіч Кузняцоў, Ягор Юр'евіч Луцэнка, Наталля Прушак.**

Ашмянцы **Андрэй Войнюш, В.С.Дзервік.**

А таксама **Алеся Аноп** з Маладзечанскага раёна. **Ганна Шульга, Яўгеній Пятровіч Зямцоў, Алена Блажэвіч, Вікторыя Барысаўна Буркевіч** з Вілейскага раёна. **Юлія Скарульская** з Астравецкага раёна.

Прыемна заўважыць, што ўсе без выключэння ўдзельнікі карцінку склалі правільна. Выканалі і абавязковую ўмову – прыдумалі пад яе подпіс. Тут ужо кожны праявіў сваю фантазію. Яўген Жамойдзін з Маладзечна назваў нашага бабра “Чудзікам з “Рэгіянальнай”, Алеся Аноп, што жыве ў вёсцы Гаеўцы, – “Таленавітым бабром”, а маладзечанка Міраіда Сярпейка, мабыць, у гонар газеты, – “Рэгіёнчыкам”. Дарэчы, склала яна і верш, у якім піша:

*Хто не ведае яго,*
*“Рэгіёнчыка” свайго.*
*Ён асоба творчая,*
*да навін ахвочая.*
*Прачытае, абмазгуе,*
*перамеле, абмяркуе.*
*Важна, што да хлеба*
*мае ў тым патрэбу.*




**Так выглядае бобрык на карцінцы, якую чытачы складалі на працягу лета.**
Малюнак Алега ГУЛЕЦКАГА.

А Наталля Прушак з Вілейкі ў сваім лісце зазначае: “Прывітанне, рэдакцыя “РГ”, вы мяне, магчыма, памятаеце, некалі прысылала адказы на рэбусы і галаваломкі, што друкаваліся ў вашай газеце. Вось і на гэты раз вырашыла паспрабаваць свае сілы. Сабрала не толькі карцінку, але і склала верш. Звярка вашага назвала “Фома”. Але вось хто гэта, так і не вырашыла. Можа, хамячок, а мо, й бурундучок?”

Андрэй і Сяргей Войнюшы жывуць у Ашмянах. Хлопчыкі – браты. Адзін з іх перайшоў у 7 клас СШ №1, другі – у трэці. Плод калектыўнай творчасці гучыць так:

*Ой, бобёр, бобёр, бобёр,*
*Что в газете ты прочёл.*
*Поделись ты новостями,*
*Ты победу приобрёл!*

Ліст Ірыны Найдзіч прышоў у рэдакцыю 36-м па ліку. Жыхарка вуліцы Паўночнай, што ў Маладзечне, не асмелілася паспрабаваць сябе ў паэзіі, але словы не глыбока кранулі супрацоўнікаў рэдакцыі. Пад карцінкай, на якой бабёр чытае “РГ”, яна напісала:“Тая, што нас яднае!”. А ніжэй дадала: “Рэгіянальная газета” – тая, што яднае тых, хто любіць сваю мову, свой край, хто цікавіцца яго мінулым, клапоціцца аб жыцці сёння і з надзеяй глядзіць у будучае сваёй Беларусі”.

Агітуе за нашу газету і В. Дзервік з Ашмян:

*Хто з газетай пасябруе,*
*той ужо не засумуе.*
*Языка хоць і не мае,*
*а пра ўсё апавядае.*

Добрыя словы адрасаваў “РГ” Яўген Зямцоў з вёскі Мільча Вілейскага раёна. У сваім вершы ён піша:

*Вот пришёл подписки час*
*и позвал на почту нас.*
*Мы к почте быстро побежали*
*и там чудо увидали.*
*Газету звери здесь читали:*
*стоял барсук, стоял бобёр,*
*Вели они неторопливый*
*разговор.*
*И спорили они весь день*
*до хрипоты,*
*Что лучше “Рэгіянальнай”*
*не найти!*

На жаль, рэдакцыя не мае магчымасці працытаваць усе пісьмы, у якіх вы выказалі шмат добрых, цёплых слоў у адрас газеты. Усе яны ішлі ад душы. Паверце, нам было надзвычай прыемна іх чытаць, і, каб хоць неяк аддзячыць сваіх рэспандэнтаў, абяцаем кожнаму, хто даслаў нам ліст, адправіць “Сертыфікат ўдзельніка конкурсу “Збяры карцінку”.

Ну, а пераможцаў, вядома ж, чакаюць прызы. Мяркую, самы час сказаць, што першая прыступка п'едэсталу гонару дасталася Алене Блажэвіч з вёскі Журыхі Вілейскага раёна, якая напісала байку пра бабра, другое – Зінаідзе Анціпавай з Маладзечна. Трэці прыз паедзе ў Вілейку да А.Капцюг. Віншуем пераможцаў і друкуем іх работы.

**I месца**
**Алена БЛАЖЭВІЧ, Вілейка.**

### Бабёр

*Песня чуецца здалёк,*
*што гэта такое?*
*Гэта наш лясны звярок*
*пошту нясе ў поле.*
*Ён ідзе з паўнюткай сумкай,*
*ветрык дзьме спагадна,*
*Па палях дарога ўецца,*
*песня льецца складна.*
*Паштальён усім спявае,*
*цвыркунам і мушкам,*
*Любяць вельмі ўсе яго,*
*і звяры, і птушкі.*
*Вожык атрымаў часопіс,*
*бобрык — тэлеграму,*
*А вось коніку малому*
*напісала мама.*
*Звярок за брамай прыпыніўся*
*толькі на хвілінку –*
*Тры газеты і паштоўку*
*апусціў у скрынку.*
*Піша брат сястрычцы*
*меншай, шле пасылку мама,*
*Атрымайце, калі ласка,*
*вось вам тэлеграма!*
*А калі пачнецца дожджык*
*ці віхор благіх завей,*
*Звярок хаваецца пад плашчык*
*і ідзе сабе далей.*
*З “Рэгіянальнаю газетай”*
*прыходзіць ён і да мяне,*
*Чакаю я яго з цукеркай,*
*запрашаю да сябе.*
*Звярок акуляры пратрэ,*
*загляне ў вячэрняе неба,*
*І скажа ён важна:“Не!*
*Мне пошту разносіць трэба!”*
*Па дарозе дрэмлюць птушкі,*
*бавіць час малеча,*
*І яго ў двары апошнім*
*сустракае вечар.*
*А я прысяду ля акна,*
*пачну чытаць газету.*
*Ну, і цікавая ж яна,*
*пра любы дом наш гэты!*
*Там і Мядзел прыазёрны,*
*і Вілейкі любы край,*
*І пра лес там ёсць зялёны,*
*пра шумлівы шчодры гай.*
*Я люблю гэту газету,*
*дзякуй, я ўсім кажу,*
*Хто рабіў усю працу гэту,*
*я ёй вельмі даражу!*
*Звярок ідзе з пустою сумкай.*
*Ветрык дзьме спагадна.*
*Па палях дарога ўецца,*
*песня льецца складна.*

**II месца**
**Зінаіда АНЦІПАВА,**
**Маладзечна**

*Калі ты паставіў мэту*
*пра ўсё ведаць дасканальна,*
*То бяры й чытай газету,*
*што завуць “Рэгіянальнай”.*
*Пра ўсё ведаць – гэта*
*мэта дасягнення ідэальна,*
*Калі ты, чытач газеты,*
*што завуць “Рэгіянальнай”.*

**III месца**
**А.КАПЦЮГ, Вілейка.**

*Не толькі бабулі, бацькі*
*і дзеці,*
*Кожны знойдзе сваё*
*ў “Рэгіянальнай газеце”:*
*Сучаснасць, мінулае,*
*тэлепраграму,*
*Конкурсы, цэны на рынку,*
*калейдаскоп,*
*Крымінал і здарэнні,*
*аб'явы, рэкламу,*
*Сектар спорту, надвор'е*
*і гараскоп.*

Дзякуй усім, хто даслаў нам лісты. Спадзяёмся, што вы і надалей будзеце сябраваць з газетай. І прымаць удзел не толькі ў конкурсах, але і дасылаць лісты аб жыцці ў вашым баку.

**Марына СЛІЖ.**



## Самыя хуткія і арганізаваныя

**У конкурсе «Збяры карцінку» ўдзельнічала 37 чалавек з розных населеных пунктаў нашага рэгіёну. А самым першым свой адказ прынёс Сяргей Міцкевіч з Маладзечна.**

Ён прыйшоў у рэдакцыю ў панядзелак у 8 гадзін раніцы. Паколькі тэлефона ў яго не было, мы з Аксанай Кулеўніч, якая вяла конкурс, адправіліся на пошукі, балазе адрас напісаны на канверце. Аказалася, што жывуць Міцкевічы ў інтэрнаце, у якім, відаць, у гонар нашага прыходу якраз адключылі электрычнасць. Мы з Аксанай доўга хадзілі па бясконцым цёмным калідоры, навобмацак вызначалі нумары пакояў, а пасля спрабавалі пазваніць у адключаны званок. А дзверы былі незамкнёныя. Нам насустрач выйшла Галіна Міцкевіч.

– Газету купляю ў пятніцу пасля работы, – гаворыць яна. – Кіёск па дарозе, таму не забываю набыць. Больш за 7 гадоў наша сям'я сябруе з «Рэгіянальнай газетай». Муж найбольш любіць чытаць крымінал і аб'явы, дачка Таня – гараскоп, а я – экспрэс-апытанне і “Навіны рэгіёну” на першай старонцы. Убачыла, што трэба будзе збіраць кавалачкі карцінкі, адразу зацікавілася і вырашыла: буду выразаць і складваць. У пятніцу купіла нумар з апошнім кавалачкам, у суботу ўсёй сям”ёй наклеілі і прыдумалі подпіс “Каб навіны ўсе пазнаць, трэба ў пятніцу «Рэгіянальную» чытаць”. Але я няўдачлівая, ніколі нічога не выйгравала, таму ўдзельнікам запісала мужа Сяргея. Ён працуе ў службе хуткага рэагавання міліцыі. У панядзелак раніцай ехаў з дзяжурства і занёс бобрыка ў рэдакцыю. Так мы сталі першымі.

**Святлана ЦІШКО.**



**Галіна Міцкевіч з сертыфікатам ад «РГ».**
Фота Святланы ЦІШКО.

■ ПАРТРЭТ

# Футбольны трэнер Харламаў

**Сёлета ў Канстанціна Харламава быў паўвекавы юбілей. А яшчэ гэты год адметны для яго тым, што спаўняецца дваццаць пяць гадоў як працуе футбольным трэнерам.**

Калі Канстанцін Аляксеевіч паведаў, што нарадзіўся ў Гелянове каля стадыёна, адразу падумалася, вось чаму на ўсё жыццё ён прыкіпеў да гэтага віду спорту.

А ў сям'і, між іншым, ніхто на футбол не "хварэў": ні бацькі, ні старэйшы брат. Праўда, зараз маці (ёй 81 год) імкнецца сачыць за падзеямі. На жаль, летась не стала бацькі-франтавіка (яму было 83). Яны абодва, дарэчы, у пяцідзесятых гадах працавалі ў Маладзечанскім абкоме партыі.

У Канстанціна Харламава зараз свая вялікая сям'я: жонка, трое дзяцей. Дачка Вольга (26 гадоў) скончыла БДУ і працягвае вучобу ў нямецкім Нюрнбергу. Сын Аляксей (23 гады) працуе ў "Мінскім мебельным цэнтры". Малодшая – Вікторыя – у свае 8 гадоў добра гуляе ў шахматы.



Галоўны трэнер каманды «Забудова» Канстанцін Харламаў.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Футбаліст

Харламаў гаворыць:

"Тое, што стадыён быў побач з домам, безумоўна, паўплывала. Пастаянна быў на стадыёне, куды мяне без праблем пускаў знакаміты "дзядзька Міша". Гэта ж быў пачатак шасцідзесятых, "зорныя" часы, увесь горад ведаў Вячаслава Бёрдачкіна, Валерыя Максімава, Уладзіміра Васагана, Яўгена Катоўскага, Анатоля Шэлюха, Альберта Зайца і іншых".

Вучыўся ён у старым будынку СШ№2. Першым спартыўным інтарэсам быў настольны тэніс: хадзіў у 1964-65 гадах на заняткі да Леаніда Сталбавенкі. А з пятага класа (1965 год) прыйшла чарга футбола, трэніраваўся ў Анатоля Бераснева.

Вось што ўспомніў пра свайго выхаванца Анатоль Піліпавіч:

"Звярнуў увагу на Канстанціна, калі ён гуляў у настольны тэніс. Хуткі, рухавы. Спадабалася работа ног, што важна для футбола. Вочы вясёлыя – гэткі "жыўчык". Хутка прагрэсіраваў, стаў адным з лепшых у маёй групе, недзе праз год яго запрасілі ў зборную вобласці. Калі вучыўся ў Брэсце ў інстытуце, яго ледзь не ўзялі ў тамтэйшае "Дынама" з другой саюзнай лігі.

Што тычыцца чалавечых якасцяў – адкрыты, шчыры, добразычлівы".

У юнацкім узросце Харламаў паспеў пагуляць у Маладзечне за "Хвалю" (прадстаўляла завод "Спадарожнік") у 1968-69 гадах і за "Спартак" у 1970-ым. Потым па рэкамендацыі трэнера Уладзіміра Ганчарова (прыехаў сюды працаваць з Мінска) перайшоў у сталічны СКА. Заняў з гэтай камандай у 1974 годзе трэцяе месца ў чэмпіянаце БССР, гуляў побач з вядомымі зараз спецыялістамі Ігарам Бяловім, Уладзімірам Касакоўскім, Уладзімірам Яначкіным.

Правучыўся адзін год у тэхналагічным інстытуце. Але пасля армейскай службы стаў вучыцца ў Брэсцкім педагагічным інстытуце. Гуляў за вядомую ў рэспубліцы тамтэйшую каманду "Педінстытут" побач з Аляксандрам Разіным, Валерыем Мельнікавым, займаў з ёй чацвёртае месца ў чэмпіянаце БССР. Гульнявое амплуа – паўабаронца.

## Трэнер

Працаваць пачаў у 1978 годзе (чвэрць века таму) у Маладзечанскай ДЮСШ. Дарэчы, тады дырэктарам быў Валянцін Стоічаў, потым адзін год – Уладзімір Жартун, і з 1987-га года – Анатоль Езубчык.

З першай для яго групы хлопцаў 1966-га года нараджэння выйшлі Аляксандр Гармаза, Андрэй Найдзіч, Сяргей Рысік, Аляксандр Лепеш, іншыя. Дарэчы, надзвычай цікавы атрымліваецца ланцужок пераемства пакаленняў маладзечанскіх футбольных трэнераў: Бераснеў –Харламаў – Гармаза.

У наборы 1970 г.н. займаўся Аляксандр Вяжэвіч, лепшы маладзечанскі бамбардзір за ўсе часы, мае на сваім рахунку адзін матч за нацыянальную зборную. Ён мае дачыненне да ўсіх нашых клубных поспехаў у дзевяностыя гады, выйграваў Кубак БССР-1990, Кубак СССР-1991 сярод калектываў фізкультуры, чэмпіянат БССР-1991, Кубак БССР-1991, займаў з камандай найлепшае чацвёртае месца ў чэмпіянаце краіны-1994/95, забіў 44 галы ва ўсіх турнірах сезона-1991, забіў 20 галоў у чэмпіянаце краіны-1996. Выступаў у Расіі, Ізраілі, на Кіпры, а таксама ў беларускіх "Дынама" (Мінск), "Белшына" (у яе чэмпіёнскім сезоне-2001), "Тарпеда-СКА", а зараз далучыўся да свайго трэнера ў "Забудове".

Таксама ў гэтым наборы быў Валянцін Гружэўскі і іншыя. На юнацкіх спаборніцтвах "Крыштальны мяч" ў 1987 годзе разам з хлопцамі Анатоля Бераснева 1969 г.н. (напрыклад, Мікалай Абрамовіч, Сяргей Ляшчынскі) яны занялі другое месца ў падгрупе, саступіўшы толькі будучаму пераможцу – мінскаму "Дынама".

Група 1973 г.н. – гэта Аляксандр Мялюк, Дзмітрый Касцюкевіч, Вячаслаў Ваўчок, Дзмітрый Капленка, Дзмітрый Шэк і астатнія. І яны былі другімі ў падгрупе "Крыштальнага мяча" (1991 год), таксама саступіўшы толькі будучаму трыумфатару – мінскай "Рыгондзе". Ездзілі тады ў Германію ў Эслінген на юнацкі футбольны фестываль, дзе занялі першае месца, апярэдзіўшы мясцовыя каманды і югаслаўскіх гасцей, пасля чаго, дарэчы, нашых перасталі туды запрашаць.

Многага дабіліся выхаванцы Харламава і ў пазафутбольным жыцці. Віталь Крупяньноў (1966 г.н.) працуе цяпер дырэктарам вячэрняй політэхнічнай школы. Ён наш калега, у мінулым супрацоўнік "РГ". Знайшлі сябе ў журналістыцы і Юрый Калашноў (газета "Московский комсомолец") з Дзмітрыем Руселем (радыё ВА), а Алег Казлоўскі зараз мае свой бізнес у ЗША. Усе яны 1970 г.н.

Харламаў пачаў дапамагаць Сяргею Бароўскаму ў "Металургу" яшчэ ў самы бліскучы наш год – 1991-ы. А пасля ўходу таго ў нацыянальную зборную на працягу стартавых тураў чэмпіянату-1994/95 (таго самага, лепшага ў суверэнныя часы па выніку – чацвёртае месца) быў галоўным трэнерам. Пакідаў жа клуб разам з Людасам Румбуцісам восенню 1995-га.

Тут лёс зрабіў пэўны паварот, на першы план выйшла выкананне арганізатарскіх функцый. Прыняў запрашэнне з Беразінскага паляпшаць спартыўнае жыццё, бо там раней толькі адзін Леанід Лявончык (бацька Андрэя Лявончыка) стараўся. Штогод з 1996-га пачалі праводзіць папулярныя турніры па міні-футболе. Самы прадстаўнічы быў у 1999-ым, якраз перад стварэннем у горадзе міні-футбольнага клуба "Металург". Ва ўсіх пачынаннях вельмі дапамагаў кіраўнік прадпрыемства РАМАС Генадзь Гаўрыс. А каманда "Металург" з Беразінскага па вялікім футболе пры Харламаве на "вобласці" займала трэцяе (1999 год), шостае (2000) і другое (2001) месцы. Але ў гэты час ён ужо значную ўвагу надзяляў міні-футболу.

Вось як расказвае пра тыя два "бронзавыя" сезоны (1999/2000 і 2000/01), калі ў Маладзечне гуляла моцная каманда:

"На двух крэслах не пасядзіш, таму пайшоў у міні-футбольны клуб. Двойчы былі трэцімі, а павінны былі стаць першымі, бо фінансаванне было выдатнае. Мы не знайшлі агульнай мовы з галоўным трэнерам Сяргеем Сафонавым. Хаця каманда стваралася "пад мяне", а Сафонава з футбалістамі (кандыдатамі ў зборную) Гаўрыс запрасіў для ўзмацнення. З таго складу цяпер у "Забудове" гуляюць Валянцін Гружэўскі, Віталь Казяк, Аляксандр Мялюк, а Ігар Кіркіж (адзіны не мясцовы з гэтага пераліку) і Дзмітрый Янель зараз атрымалі прапанову ад міні-футбольнага клуба з Украіны. У горадзе можна мець сваю вельмі някепскую міні-футбольную каманду. Ды і такая зала на ЗМК выдатная!"

Да запрашэння мінулай восенню па ініцыятыве Альберта Дабранскага (той заўсёды клапоціцца аб справах чысцінскай каманды) у "Забудову" працаваў Харламаў і намеснікам дырэктара "Першага трубнага завода РАМАС", і бізнесам нейкі час займаўся.

А зараз ён зноў галоўны трэнер мясцовай каманды па вялікім футболе. Пра сваю справу (жыццёвы досвед і праблемы) гаворыць так:

"Век жыві – век вучыся. Пастаянна трэба расці, набываць веды. Чытаць літаратуру і канспекты (напрыклад, Сяргей Бароўскі дапамог мне набыць матэрыялы Канстанціна Бескава і Валерыя Лабаноўскага), ледзь не падглядаць трэніровачны працэс іншых спецыялістаў. Гэта як доктар, хірург: калі спынішся, то навярстаць надта складана. Патрэбна вывучаць псіхалогію. Вось у нас у "Забудове". Бачу, на трэніроўках хлопцы падрыхтаваны добра, бягуць, пасуюць, б'юць. А як выйдуць на матч – страчваюць свае якасці. Тут праблемаў шмат. Напрыклад, трэніравацца няма дзе: толькі і застаецца так ужо абрыдлая паляна пятай школы. Як там футбалістам расці ў майстэрстве? Там ураўніваюцца шансы ўсіх каманд. Узяць для прыкладу кубкавы матч з чэмпіёнам краіны БАТЭ. Дык на пятай школе яму было б складана нас перамагчы. Праўда, гэта ўжо быў бы не футбол, а нешта іншае".

Такую адзнаку даў свайму выхаванцу як самастойнаму спецыялісту Анатоль Бераснеў:

"25 гадоў таму вярнуўся ў родны горад і сам прыйшоў з жаданнем працаваць у ДЮСШ. Я адчуў, што з яго атрымаецца талковы трэнер. Гэта не кожнаму дадзена, хаця трэнераў і шмат. Вырас да ўзроўню вышэйшай лігі, узначальваў "Маладзечна" пасля Бароўскага. Потым жыццё неяк крутанула, займаўся іншымі справамі. Аднак старая любоў перамагла, вярнуўся ў вялікі футбол.

Я рады за яго. Дай Бог, пабольш такіх людзей".

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ТУРЫЗМ

# На Віліі сабраліся турысты–воднікі

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулыя выхадныя прайшлі традыцыйныя спаборніцтвы па тэхніцы воднага турызму памяці турысткі Таццяны Брылевіч. Арганізатарам іх стаў гарадскі клуб "Пілігрым".**

Надвор'е ледзь не за тыдзень папярэдзіла аб сваім дрэнным характары і капрызным настроі. Але аматараў турызму гэта не спалохала, і 23 жніўня на беразе Віліі каля Краснага Беражка сабралася 7 каманд па 4 чалавекі кожная (3+1), а таксама гледачы і балельшчыкі.

У першы дзень найбольшая нагрузка легла на плечы жанчын. Праграму спаборніцтваў адкрывала ралі змешаных (мужчына і жанчына) экіпажаў — хвілін 25 хуткага ходу на вёслах вакол вострава. Дадатковае заданне на веданне вузлоў успрымалася як падарунак лёсу: можна было выйсці на бераг і цэлых 5 хвілін не веславаць. Пасля абеду — слалам на каяку. Многія мужчыны, не кажучы ўжо пра жанчын, упершыню ўбачылі гэтую пластыкавую вяртлявую лодачку. Трохі не так правядзеш вяслом, яна пачынае круціцца на вадзе. Дыстанцыя складалася з чатырох «прамых» варот і адных «рэверсных», гэта значыць, іх праходзяць кармой уперад. Самымі складанымі лічыліся трэція вароты: яны знаходзіліся між паваленага дрэва і карчоў, а выходзіць з іх на чацвёртыя трэба было супраць плыні. Суддзі на дыстанцыі чакалі, што большасць дзяўчат зробіць каля трэцяй пары вешак аверкіль, перавернуцца, але такое відовішча ўстроілі якраз 2 хлопцы. На такі выпадак дзяжурылі суддзі на байдарках: яны лавілі вясло і каяк, што ганарліва бег па хвалях, пазбавіўшыся весляра. Кожнаму ўдзельніку давалася па дзве спробы. Некаторыя пасля першай абяцалі ніколі ў жыцці не садзіцца ў каяк, але, адпачыўшы, зноў бралі вясло ў рукі. Па выніках першага дня лідзіравала каманда «Мурлакатамы», якая прадстаўляла маладзечанскі цэнтр пазашкольнай работы.

На другі слаламная траса чакала мужчынскія і змешаныя экіпажы на байдарках. Гледачы, якія самі толькі што веславалі, з берага віталі апладысментамі "чыстае" праходжанне варотаў. Барацьба разгарнулася паміж камандамі «Пілігрым» маладзечанскага турклуба і «Бабуіны» краязнаўчага клуба «Ладдзя». Мужчынскія экіпажы падзялілі 1 і 2 месцы. Змешаны экіпаж «Пілігрыма» выйграў у часе, але набраў больш штрафаў, таму заняў другое месца. У выніку першымі ў агульнакамандным заліку сталі «Бабуіны», другое месца ў «Пілігрыма», трэцяе — у каманды «Міхалыч і К», капітан якой прыехаў з Асіповічаў дзеля ўдзелу ў спаборніцтвах. Кожны пераможца атрымаў карту Маладзечна і наваколля, каманда – пераходны кубак, прызёрам дасталіся суцяшальныя сувеніры.



Турыст Сяргей Сочнеў за пяць хвілін да старту.

Фота Святланы ЦІШКО.

**Святлана ЦІШКО.**

## ВІНШАВАНКІ

**Валянціну Хацяновіч і Алеся Высоцкага** з Мядзела віншуем з уступленнем у шлюб!

Сям'і жадаем шчасця й моцы,
Дзяўчат гадуйце, ды і хлапцоў -
Народзяцца прыгожыя хай дзеткі.
Шчасліва вам пражыць ўсе леткі!

*Рэдакцыя «РГ».*

Віншуем з днём нараджэння **Мацюшову Наталлю Васільеўну**. Жадаем сямейнага дабрабыту, здароўя, шчасця, поспехаў на працы. *Родныя.*

Віншуем **Фалей Лідзію Гаўрылаўну** з днём нараджэння. Здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту і доўгіх гадоў жыцця! *Родныя.*

Віншуем з днём нараджэння **Шакура Марыю Аляксандраўну**. Жадаем здароўя ад Бога, цяпла ад сонца, дабра ад людзей.

Віншую **Каранкевіч Ганну Сяргееўну** з днём нараджэння. Жадаю здароўя, поспеху, шанаваць блізкіх і рабіць дабро. *Тата.*

Віншуем з днём нараджэння **Дзіму Самаля**. Жадаем дабіцца ўсяго, аб чым ты марыш. *Сям'я Цішко.*

Дарагую суседку **Яўгенію Самаль** віншуем з днём нараджэння. Жадаем шчасця і многа грошай. *Сям'я Цішко.*

Нашу сястру і цётку **Галіну Прадко** віншуем з днём нараджэння. Здароўя Вам і дабрабыту. *Сям'я Цішко.*

Віншуем з днём нараджэння любімую і дарагую матулю **Гівойна Валянціну Іванаўну**! Жадаем здароўя, шчасця, мы цябе вельмі любім. *Віталя, Каця.*

Віншую **Сушко Алену** з днём нараджэння! З 20-годзем!!! Жадаю моцнага кахання, здароўя, добрага настрою і ўсяго найлепшага. *Каця.*

Віншую **Гатоўку Аляксандра і яго нявесту** са шлюбам. Жадаю моцнага кахання і шчаслівага сумеснага жыцця. *Эдуард.*

## Кінатэатр «Радзіма»

**29-31 жніўня. "Сарвігалава"**, ЗША, блокбастэр – у 19.00 і 21.00.

**"Смокінг"**, ЗША, камедыйны баявік – у 15.00 (акрамя 29 жніўня) і 17.00.

(Кожную сераду ільготныя білеты на сеанс у 17.00).

### Для дзяцей

**30, 31 жніўня. "Момо"**, поўнаметражны мультфільм – у 13.00.

Працуе бар.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ АСТРАНОМІЯ

# Такое ўбачыш толькі раз

**28 жніўня адбылося найвялікшае супрацьстаянне Марса за ўсю эпоху тэлескапічных назіранняў, гэта значыць, за мінулыя 4 стагоддзі. Адлегласць да чырвонай планеты была рэкордна мінімальнай – 55,8 мільёна кіламетраў, а вуглавы дыяметр склаў каля 25 вуглавых секунд. Двойчы ў жыцці такое не ўбачыш!**

Зямля і Марс з'яўляюцца касмічнымі суседзямі, прычым, як вядома, арбіта Зямлі размешчана ўнутры арбіты Марса. Паварот Марса вакол Сонца адбываецца за два зямныя гады, таму наша планета спачатку абганяе Марс і, абагнаўшы яго на круг, становіцца ў ролі даганяючага. Так яны "бегаюць" ужо некалькі мільярдаў гадоў, паступова збліжаючыся і аддаляючыся адно ад аднаго. Збліжэнні Зямлі і Марса астраномы называюць "супрацьстаяннямі". Калі Марс набліжаецца да Зямлі, яго зручней за ўсё вывучаць у тэлескоп. Напрыклад, самым знакамітым супрацьстаяннем Марса лічацца падзеі 1877 года, калі амерыканскі астраном Асаф Хол (1829-1907) адкрыў два спадарожнікі планеты: Фабас і Дэймас. Тады ж італьянскі астраном Д.Скіпарэлі адкрыў вядомыя марсіянскія "каналы".

У наш час Марс вывучаюць з дапамогай касмічных тэлескопаў і аўтаматычных міжпланетных апаратаў, але ўбачыць самому паверхню планеты, на якой, магчыма, было ( а можа і ёсць) незямное жыццё, — паверце, падзея.

Прааналізаваўшы рух планеты на небе на аснове камп'ютэрнай праграмы-планетарыя Star Calc, зрабіў выснову, што выдатныя ўмовы бачнасці планеты захаваюцца да кастрычніка 2003 года. У жніўнівераснні яе магчыма будзе назіраць практычна ўсю ноч. У канцы жніўня планета з'явіцца на паўднёвым усходзе пасля дзевяці гадзін вечара ў сузор'і Вадалея. Адрозніць свяціла ад астатніх зорак будзе лёгка: планета ярчэйшая за іх і мае чырванавата-аранжавы колер. Найлепшы час назірання за ёй каля двух гадзін ночы, калі планета дасягае максімальнай вышыні над гарызонтам у паўднёвым сектары неба. Для геаграфічных каардынат горад Маладзечна – гэта прыкладна 20 градусаў. Узброіўшыся невялікім тэлескопам і скарыстаўшы дастатковае павелічэнне, можна ўбачыць паўднёвую палярную шапку Марса, а пры спрыяльных атмасферных умовах разгледзець галоўныя геаграфічныя ўтварэнні планеты: "моры", "залівы", а магчыма, некаторыя "каналы". Будуць вельмі цікавымі замалёўкі і фотаздымкі дыска планеты. Можна абысціся і невялікай глядзельнай трубой і біноклем, але для назірання прыйдзецца "нарасціць" павелічэнне. Так, з падзорнай трубы, якая мае дыяметр аб'ектыва 40 міліметраў, можна "выцягнуць" павелічэнне ў 70 разоў. Для гэтага неабходна зрабіць з кардону трубку, адзін канец якой насадзіць на акуляр трубы, а ў другі замацаваць дадатковы акуляр альбо лінзу. У якасці акуляра можна выкарыстаць кароткафокусны фотааб'ектыў ці акуляры ад мікраскопа, тэадаліта, нівеліра. Агульная даўжыня трубкі павінна быць у межах 70-140 міліметраў. Факусіроўка адбудзецца за кошт факусіровачнага вузла інструмента.

Заначу, што Марс у цяперашні час з'яўляецца самым яркім аб'ектам на начным небе пасля Месяца, а маладзік 27 жніўня стварыў спрыяльныя светлавыя ўмовы для назірання планеты. Дарэчы, для нас супрацьстаянне Марса ніякай небяспекі не ўяўляе.

Удалых назіранняў!

**Іван СЯРГЕЙ, астраном-аматар, Маладзечна, тэл. 5-20-42.**

**Марс– чацвертая планета Сонечнай сістэмы, аддаленая ад Сонца на сярэднюю адлегласць 228 млн. км, прыкладна ўдвая меншая за Зямлю (экватарыяльны радыус 3394 км) і ў дзевяць разоў меншая па масе. Суткі роўныя 24 гадзінам 37 мінутам 23 секундам. Ёсць змена пораў года амаль як на Зямлі. Марсіянскі год доўжыцца 687 зямных сутак. Мінімальная тэмпература паверхні –140 градусаў па Цэльсіі, максімальная сягае плюс 20 градусаў.**

**Найлепшы час назірання за Марсам каля двух гадзін ночы, калі планета дасягае максімальнай вышыні над гарызонтам у паўднёвым сектары неба. Для геаграфічных каардынат горад Маладзечна – гэта прыкладна 20 градусаў. Узброіўшыся невялікім тэлескопам і скарыстаўшы дастатковае павелічэнне, можна ўбачыць паўднёвую палярную шапку Марса, а пры спрыяльных атмасферных умовах разгледзець галоўныя геаграфічныя ўтварэнні планеты: «моры», «залівы».**

■ ІМЯНІНЫ

**29 жніўня**
**Праваслаўныя**: Дзяміда.
**Каталіцкія**: Сабіны, Яна.
**30 жніўня**
**Праваслаўныя**: Ульяны, Купрыяна, Мірона, Паўла, Піліпа, Яўціха.
**Каталіцкія**: Маргарыты, Ружы, Банонія.
**31 жніўня**
**Праваслаўныя**: Георгія, Дзяніса, Емяльяна, Івана, Іларыёна, Макара, Серапіёна.
**Каталіцкія**: Багдана, Марка, Раймунда.
**1 верасня**
**Праваслаўныя**: Фёклы, Агапія, Гапея, Андрэя, Цімафея.
**Каталіцкія**: Браніслава, Ідзія.
**2 верасня**
**Праваслаўныя**: Самуіла.
**Каталіцкія**: Саламона, Сцяпана, Юльяна.
**3 верасня**
**Праваслаўныя**: Васы, Абрама, Агапія, Фадзея.
**Каталіцкія**: Ізабелы, Рыгора, Шымана.
**4 верасня**
**Праваслаўныя**: Агафоніка, Апанаса, Зоціка.
**Каталіцкія**: Разаліі, Ружы.

■ ПАРАДЫ САДАВОДУ І АГАРОДНІКУ

# Што і як рабіць у верасні

**У першай палове месяца ўбіраюць слівы, а ў другой – грушы, яблыкі асенніх і зімовых сартоў.**

Некаторыя садаводы садзяць суніцы ў жніўні, але гэта лепш за ўсё рабіць у верасні. Галоўнае, добра падрыхтаваць глебу і закончыць пасадку ў паўночных раёнах да сярэдзіны месяца, а ў паўднёвай зоне – і пазней, каб расліны маглі добра ўкараніцца да наступлення халадоў.

Па месяцавым календары спрыяльныя для пасадкі суніц дні прыпадаюць на 1, 2, 10 і 27-29 верасня; пладовых дрэў – на 12, 13 і 16-18. Чаранкі чорных парэчак лепш за ўсё пасадзіць 25, 28 ці 29 верасня. Убіраюць, дэзінфіцыруюць і ставяць у надзейнае месца падпоры.

У верасні выкопваюць на апошніх градках і падсушваюць цыбулю і часнок. Асабліва клапоцяцца аб памідорах. Калі іх яшчэ не ўбралі ў жніўні, дык стараюцца зрабіць гэта ў першыя дні верасня, пакуль начная тэмпература не апусцілася ніжэй 5 градусаў цяпла, таму што тады яны пачынаюць загніваць.

Рыхтуюцца да ўборкі і захавання буракоў, морквы і іншых караняплодаў. У буракоў караняплоды выступаюць над зямлёй і моцна трэскаюцца пад уплывам ваганняў тэмпературы. Таму іх выкопваюць першымі, затым бручку, моркву, рэпу, рэдзьку (зімовыя сарты), сельдэрэй, пятрушку і пастарнак. Бульбу ўбіраюць, калі расліны адцвітуць і ў іх пажаўцее ніжняе лісце. Скошваюць ці зжынаюць бульбоўнік і праз 7-8 дзён выкопваюць клубні.

У зімовых цяпліцах высяваюць пятрушку, высаджваюць сельдэрэй і іншыя культуры. Таму і назавём неспрыяльныя дні для сяўбы і пасадкі любой культуры – гэта 7-9, 21-23 і 26 верасня. Спрыяльныя дні для сяўбы і пасадкі: пятрушкі, сельдэрэя на зеляніну – 1, 2, 5, 6, радыскі – 14-16, 19, 20 верасня.

Лепш капаць бульбу для захоўвання 14-18, 22, 23, убіраць буракі, рэпу, рэдзьку і моркву – 14-18, 22 і 23, памідоры і агуркі – 1, 2, 5-7, 27, 28 верасня. Паліваюць і падкормліваюць расліны 1, 2, 9, 10, 19, 20, 28 і 29.

З 1 да 10 і з 27 да 30 верасня месяц расце, а з 11 да 26 — убывае.

**Альбін МАКАРЭВІЧ, аграном.**



■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно



Шаноўныя, прывітанне! Кім бы вы ні былі ў жыцці, вам заўсёды патрэбны веды, добрая памяць, кемлівасць, уважлівасць, уменне лагічна мысліць, аналізаваць. Нашы заданні дапамогуць вам трэніраваць і развіваць гэтыя якасці. Далучайцеся да нашай "разумовай гімнастыкі"! З прапанаванымі ў мінулы раз лагічнымі задачкамі справіліся маладзечанцы Павел Трыпуцька, Ігар Сільвановіч, Павел Юркевіч, Юрый Мінец, Таццяна Ягела, Дзмітрый Пакладок, Валянціна Іванаўна Дземідовіч, Вікторыя Дудко, Юрый Юхневіч, Сяргей Баранаў, віляйчанка Галіна Бурак. Усяго 10 чалавек. А білетаў толькі 4. Таму прыйшлося круціць "рэдакцыйны лататрон". Білеты ў кіно атрымаюць Павел Трыпуцька, Юрый Юхневіч, Таццяна Ягела, Юрый Мінец. Калі ласка, заходзьце да нас у рэдакцыю за білетамі.

А вось правільныя адказы на мінулыя заданні:

І. Болей за ўсіх злавіў рыбы Дзіма. За ім ідзе Алік, потым Коля, а Лёня аказаўся самым няўдачлівым.

ІІ. Самая старэйшая – Тоня, наступная па ўзросту – Жэня, а Галя – самая малодшая.

Прапаную вам наступныя заданні:

І. Заданне-жарт. На стале стаяць 6 шклянак, 3 з іх пустыя, а ў 3 наліта вада.

Зрабіце так, каб пустыя і поўныя шклянкі чаргаваліся. Браць у рукі можна толькі адну шклянку.



ІІ. Складзіце з запалак фігуру, адлюстраваную на малюнку.

У ёй можна налічыць 30 квадратаў – вялікіх і маленькіх. Патрэбна зняць 9 запалак так, каб не засталося ніводнага квадрата.



Адказы прымаюцца да аўторка (2 верасня) уключна. На кон выстаўляюцца толькі 3 білеты.

Чакаю вашых лістоў з новымі цікавымі заданнямі. Заставайцеся ў нашай кампаніі!

**Падрыхтавала Аксана Кулеўніч.**

